

№ 6 (494) 7 ЛЮТАГА 2001 г. Наша слова

# Семінар "Я магу жыць лепей" у Асіповічах

Яшчэ ў Магілёве, падчас правядзення семінару, я дамовілася з спн. Таццянай Барэль, старшынёй Асіповіцкай Рады ТБМ, пра семінар у іх горадзе. І вось атрымала запрашэнне ў Асіповічы, куды накіравалася разам са старшынём ТБМ Алегам Трусавым.

У дарозе, у электрычцы, нас прыемна суправаджала родная мова – усе назвы станцый машыніст прамаўляў па-беларуску. Мы зацікавіліся гэтай акалічнасцю і пазнаёміліся з брыгадай вядоўцаў цягніка. Гэта былі двое маладых хлопцаў – Дзмітры Хаменка і Міхась Шкут. Яны па ўласным пачыне карысталіся роднай мовай на працы. Маладым людзям прыемна было атрымаць ад нас апошнія нумары газеты "Наша слова", каляндарыкі. А нам усцешліва было ад вернасці хлопцаў дзедаўскай мове, ад іх настойлівасці і неабыякавасці.

Гэты светлы настрой узмацніўся, калі трапілі ў асіповіцкую сядзібу. Нас чакалі інжынеры, журналісты, настаўнікі, бізнесоўцы, студэнты, старшакласнікі – тыя, хто хацеў навучыцца жыць лепей.

Іх актыўную пазіцыю засведчыла праца ў разнастайных грамадскіх арганізацыях, а цяпер іх пацягнула жаданне больш уведаць пра свет, стасункі людзей, пазнаць самога сябе.

Хутка ляцелі гадзіны семінару. Людзей цікавілі асабліва варункі адносінаў, тэхналогіі разумення тых, хто цябе акаляе, механізмы ўплыву на родных і знаёмых. З вопыту правядзення семінару хачу засведчыць, што сацыяльная сфера сёння найбольш цікавая і прыцягальная для людзей. Нават фінансавыя справы не так турбуюць, як кантакты.

Асіповіцкія слухачы вызначаліся разважлівасцю і гнуткасцю поглядаў, былі актыўнымі, няўрымслівымі і дасціпнымі. Заўсёды прыемна мець стасункі з такімі шчырымі і гарачымі прыхільнікамі жыцця ва ўсіх яго праявах, ва ўсёй яго складанасці.

Я ўпэўнена, што пошук асіпоўцамі шляхоў жыццёвых знітаванняў завершыцца перамогай над будзённай шэрасцю і нешчаслівай беларускай рэчаіснасцю. Семінар "Я магу жыць лепей" выводзіць слухачоў на гэтую сцяжынку перамогі.

*Людміла Дзіцэвіч.*

# Мы ёсць, мы былі, мы будзем

28 студзеня сядзіба ТБМ прымала гасцей – удзельнікаў семінару "Я магу жыць лепей", якія цягам трох апошніх месяцаў па суботах навучаліся змяняць сябе і сваё жыццё, выходзячы з патэнцыйных магчымасцяў кожнага, схаваных у глыбінях нашае памяці і свядомасці, сабраліся ўсе разам падвесці некаторыя вынікі працы. Тое не была справаздача перад кімсьці, альбо нават перад самімі сабою, памкнёнымі да паляпшэння і дасканалення. Тое сталася добрай, цёплай, шчырай бяседай пра нас, беларусаў, якія кожны паасобку і ўсе грамадою на сваёй зямлі аніяк не адолеюць збудаваць сабе жытку ладную ды складную.

І звыкла вінавацяць найчасцей кагосьці збоку, хто замінае здабываць і шчаслівець, хто ўладарыць нашымі лёсамі і не пускае хаця б на крок пасунуцца з мёртвае кропкі чакання ды жальбавання.

Гэтым разам усё адбывалася трошкі інакш, чым прынята ў прыватных гуртках альбо мітынгах. Бо на семінарах "Я магу жыць лепей" суполкі здолелі зазірнуць у глыбіню тае праблемы, якая баліць усяму грамадству, нязважна на прыналежнасць асобаў – да храма, да мовы, да партыі і да нацыянальнасці. І што раз на сустрэчах у ТБМ, якія ладзяцца дзеля самапазнавання і самасцверджання робяцца адкрыцці, надзвычай нечаканыя для пераважнае большасці постсавецкіх людзей, звучаных узвальваць адказнасць за свае паразы і няўдачы на некага ўладарнага і распараднага ды змірана чакаць паляпшэння долі, калі памяняецца ўрад.

Аказваецца, ад пачатку Усявышнім спраграмавана гэтак, што мы ўсё жаданне, мроенае маем у сабе. Але яшчэ не зматэрыялізаванае, яшчэ нязздзейсненае. Адшукаўшы ў сабе змоўклую волю ВЫБІРАЦЬ шлях, АДКАЗВАЦЬ за сябе і сваю сям'ю, свой дом, ты ператвараешся з халопа ў ГАСПАДАРА. І гэта выклікае ў тваім жыцці змены, што падаюцца незвычайнымі. Калі кожны адважыцца Сам будаваць сабе дарогу, дык і знікне патрэба варагаваць і прыніжацца, альбо паўставаць супраць прыгнёту…

Але да гэтага часу нам яшчэ далёка. Як, зрэшты, і ўсяму чалавецтву: усялякі ж народ, як і ўсялякі чалавек знаходзіцца Тут і Зараз на пэўным этапе свайго развіцця, няспыннага і нястомнага. Найважней – не змыліцца ў выбары шляху. Якраз гэта і падказваюць, дараджваюць семінары, ладаваныя з прапановы вядомага беларускага дзеяча эміграцыі Вячкі Станкевіча – аўтара-ўкладальніка падручніка "Я магу жыць лепей". Якраз гэты распачын прыйшоў у патрэбны час і духоўнае запатрабаванне людзей, якія ўжо не вераць у голас змаганне з супраціўнікам, але робяць спробы перамяніць нешта самі – найперш дзеля сябе. Але ж, вядома, вакол цябе светлага і ўсмешлівага будзе большасць радасці, а маркота прывабіць гэткую ж маркоту…

Гэткім чынам, - сцвярдзяць навучэнцы ды інструктары семінару - свет можна змяніць да лепшага, толькі змяніўшы самога сябе, бо і ў заможжы ды любові чалавеку прыгнёнаму, няўпэўненаму ў сваіх здольнасцях і магчымасцях, чалавеку – нявольніку блага, некамфортна. Свабода ж ёсць катэгорыяй духоўнай, глыбока-ўнутранай, і яна ўзрастае з сэрцаў, каб засяліцца ў прасторы бытавання народу…

У нядзельнай прасторы беларускае сталіцы волі, дальбог, было трошкі болей, чым звычайна. І пачынальнік семінару "Я магу жыць лепей" Вячка Станкевіч, што наўмысна наведаў радзіму дзеля спаткання з чыннікамі семінару – інструктарамі, здабывальнікамі ведаў, арганізатарамі з ТБМ – тое прыкмеціў: болей было святла, усмешак, даверу, раскутасці ва ўсіх, хто скіраваўся да сябе сапраўднага. Гэтак жа і трымайцеся. Бо якія нашыя думкі, - гэтакія мы, і гэткім выглядае нашае жыццё. Паверыўшы, што мы ёсць вольнымі, шчаслівымі, гарманічнымі ў багатай, годнай краіне, мы ўжо яе ствараем. Мы ёсць, мы былі, мы будзем.

*Антаніна Хатэнка.*

**Старшыні Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь сп. В. Папову**

# З А Я В А

**Віцебскай гарадской рады Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны**

Шаноўны Вадзім Аляксандравіч!

З перыядычнага друку нам стала вядома, што падрыхтаваны і пададзены Нацыянальнаму Сходу праект "Закону аб адукацыі" са зямненнямі і дапаўненнямі. Словы змяненняў і дапаўненняў: "Граждане имеют право на выбор языка обучения и воспитания в пределах возможностей, предоставленных системой образования" яскрава дэманструюць імкненне тых сілаў у нашай дзяржаве, якія насуперак свайму абавязку грамадзян Беларусі "... шанаваць родную мову, садзейнічаць яе развіццю і росквіту..." (з прадмовы да "Закону аб мовах") імкнуліся і імкнуцца, аасбліва на працягу апошніх гадоў, вынішчыць яе канчаткова.

Артыкул 50 Канстытуцыі РБ сцвярджае, што: "Дзяржава гарантуе ў адпаведнасці з законам свабоду выбару мовы выхавання і навучэння" кожнаму грамадзяніну краіны. Не цяжка зразумець, што робіцца чарговы крок, каб "адкусіць" яшчэ адзін кавалак ў беларусаў беларушчыны. Наступным, верагодна, будзе прыпыненне вывучэння беларускай мовы.

Нагадаем-колькасць беларусаў, якія лічылі роднай мовай беларускую, заўсёды заставалася высокай (93,1%; 90,2%; 83,5%; 80,2% па перапісах 1959-1989 г.г.), нягледзячы на палітыку русіфікацыі, якая прывяла да таго, што колькасць вучняў, што вучыліся па-беларуску ў 1988-89 н.г., была толькі на ўзроўні 20,6% (у 1931 г. іх было 88%). Таму прыняцце "Закону аб мовах" у 1990 г. і наданне беларускай мове статуса дзяржаўнай было лагічным і неабходным.

Рэферэндум па мове 1995 г., які быў праведзены насуперак існаваўшаму заканадаўству, без шырокага і ўсебаковага абмеркавання грамадскасцю, без уліку таго гаротнага стану мовы ў грамадскім ужытку, да якога прывяла папярэдняя палітыка русіфікацыі – быў ганебнай антынацыянальнай справай. Вынікі яго вядомыя – замест сапраўднага адраджэння і развіцця беларускай мовы, галоўнай якасці ў самавызначэнні нашага народа і яго культуры, ідзе мэтанакіраванае вынішчэнне мовы па ўсіх кірунках грамадскага жыцця.

Пад час рэферэндуму па мове, як было афіцыйна паведамлена, за наданне роўнага статусу рускай і беларускай мовам прагаласавала 83,3% жыхароў, якія прынялі ўдзел у рэферэндуме, але гэта толькі 54% ад усіх выбаршчыкаў, якія мелі права голасу. Лёс беларускай мовы вырашыла і тая значная частка ад 20% небеларусаў, што жыла на той час у Беларусі, якія ў сваёй большасці рускамоўныя і, як правіла, выступалі супраць беларускай мовы.

Не абышлося без фальшы і ў фармулёўцы аб роўным статусе, які людзьмі разумеўся як роўнасць у грамадскім ужыванні рускай і беларускай моваў. У новай Канстытуцыі 1996 г. зрабілі проста запіс аб дзяржаўнасці беларускай і рускай моваў, што прынцыпова супярэчыць рэферэндуму, павялічвае небяспеку для функцыявання беларускай мовы ў грамадскім жыцці.

Артыкул 4 "Закону аб мовах" патрабуе ад кіраўнікоў і ўсіх іншых работнікаў сферы грамадскага жыцця валодання беларускай і рускай мовамі ў аб'ёме, неабходным для выканання імі сваіх службовых абавязкаў. Гэта магчыма толькі пры ўмове сапраўднай роўнасці выхавання, навучання і карыстання абедзвюмі мовамі, што дэманстратыўна ігнаруецца ўладамі ў нашай дзяржаве да апошняга часу.

Перапіс насельніцтва 1999 г. паказаў пераважную большасць беларусаў (81,7%) сярод народа Беларусі, што вельмі істотна ў сэнсе самавызначэння пасля інтэнсіўнай супрацьлеглай прапаганды, якая інспіравалася з самага верху на працягу некалькі гадоў.

Па-другое, 85,6% беларусаў лічаць роднай мовай беларускую, а 41,4% і дома размаўляюць на ёй. Акрамя гэтага значная колькасць грамадзян Беларусі іншых нацыянальнасцяў таксама лічаць яе роднай.

Такім чынам, у лютым 1999 г. на Беларусі фактычна адбыўся сапраўдны рэферэндум па мове, бо на гэты раз у паштовыя скрынкі не кідалі спецыяльныя шпаргалкі з падказкамі, як трэба "правільна" галасаваць.

Калі больш за 85% беларусаў і немалая колькасць жыхароў іншых нацыянальнасцяў Беларусі лічаць роднай мовай беларускую, дык улады, пачынаючы з кіраўніка дзяржавы і ўсіх хто мае нейкае да яе дачыненне, абавязаны зрабіць усё, каб гэтая мова была не толькі роднай, а паўсядзённай у грамадскім жыцці дзяржавы.

Мы спадзяёмся, што Нацыянальны сход зрэшты павернецца тварам да праблемы выхавання, адукацыі і сапраўднай, а не дэкляраванай роўнасці і нават прыярытэту ва ўжыванні беларускай мовы ў грамадскім жыцці.

Неўзабаве Нарвегія будзе трымаць справаздачу перад ААН за тое, што яна ігнаравала вельмі малую этнічную групу скoлтаў, у якіх ёсць свая мова і культура. І ў вышэйшай ступені ганебна, што да гэтага часу і ў нас на Беларусі з пераважнай большасцю беларускага насельніцтва няма нават беларускага нацыянальнага універсітэта.

Спадзяёмся, што ў Нацыянальнага Сходу хопіць розуму і разважлівасці для таго, каб адмовіць аўтарам зламысных і крывадушных "папраўак" і "дапаўненняў", аб якіх згадвалася ў пачатку заявы, каб у чарговы раз не паставіць і нашу краіну да ганебнага слупа неадукаванасці і цемрашальства.

*Старшыня Віцебскай гарадской рады ТБМ В. М. Арлоў.*
*Прынята 11.01.2001 г.*



| РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ | РЕСПУБЛИКА БЕЛАРУСЬ |
|---|---|
| МІНСКІ ГАРАДСКІ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ | МИНСКИЙ ГОРОДСКОЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ |
| УПРАЎЛЕННЕ АДУКАЦЫІ | УПРАВЛЕНИЕ ОБРАЗОВАНИЯ |
| 220050, г. Мінск, вул. Кірава, 5. Тэл./факс 227-41-38 | 220050, г. Минск, ул. Кирова, 5 Тел./факс 227-41-38 |

25.01.2001 г. № 6-03/180

**Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны**

Упраўленне адукацыі Мінгарвыканкама паведамляе, што ў 2000/2001 навучальным годзе ў горадзе Мінску функцыянуе 11 беларускамоўных школ: СШ № 68, 131, г.111 (Заводскі р-н), СШ № 89, 110 (Кастрычніцкі р-н), СШ № 60 (Маскоўскі р-н), СШ № 2 (Ленінскі р-н), СШ № 72 (Партызанскі р-н), г.9, СШ № 190 (Першамайскі р-н), г.4 (Фрунзенскі р-н).

Беларускамоўныя класы ёсць у наступных рускамоўных школах: №№ 5, 8,77, 82, 92, 109, 120, 135, 141, 142, 143, 144, 173, 210, г.214 (Заводскі р-н); 1, 11, 30, 52, 71, 74, 75, 90, 119, 168, 194 (Кастрычніцкі р-н); 15, 40, 59, 153, 164 (Ленінскі р-н), 3, 12, 39, 67, 101, 145, 146, 160, 165, 170, 181, 192, 205, 208, 209, 213, 215, 218, г. 10 (Маскоўскі р-н); 10, 22, 86, 108 (Партызанскі р-н); 63, 70, 73, 84, 88, 115, 121, 137, 163, 177, 184, 191, 197 (Першамайскі р-н); г.8, 23, 27, 66, 91, 130, 147 (Савецкі р-н), г. 13, 16, 38, 81, 96, 99, 136, 138, 140, 150, 151, 166, 167, 175, 176, 180, 193, 211 (Фрунзенскі р-н); г.3, СШ № 35, 37, 104 (Цэнтральны р-н).

**Начальнік упраўлення М.С. Ціцянкоў.**

# Ад Каляд да Пакроваў

Праз выдавецтва ТАА "Красіка-прынт" (серыя "Беларусь святочная") у 2000 годзе пабачыла свет кніга "Ад Каляд да Пакроваў", у якой чытачы знойдуць шэраг творчых распрацовак гульнёвых праграм да святаў усіх каляндарных цыклаў.

Як азначае ў сваёй прадмове аўтар кнігі, загадчык кафедры рэжысуры святаў Беларускага універсітэта культуры Пятро Гуд, гульнёвыя праграмы, надрукаваныя ў ёй, пабудаваны пераважна на падставе фальклорна-этнаграфічнай спадчыны Меншчыны, але ўтрымліваюць і матэрыялы з іншых рэгіёнаў нашай краіны. Ёсць сярод іх і аўтэнтычныя распрацоўкі, і творча пераасэнсаваныя ды прыстасаваныя да сучаснага свята. Дарэчы, у кнігу ўвайшлі і кірмашовыя забавы беларусаў, аналагі якім у іншых народаў свету пакуль не знойдзены.

Кніга будзе цікавай ды карыснай для супрацоўнікаў культуры пазашкольных ды школьных установаў, а таксама дапаможа нядрэнна бавіць вольны час усім, хто захапляецца беларускім фальклорам.

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Спачатку міліцыянеры і дружыннікі весела смяяліся, казалі бамаўцу, каб ён не "ламаў камедыю", перастаў прыдурняцца і не браў на "понт", але праз дзесяць хвілін несупыннага енку пачалі па чарзе спалохана заглядваць у аптэчку. Яна вісела на сцяне і ў ёй была адна шклянка, якой міліцыянеры пілі самагонку, што прывозілі з рэйдаў. (Тут жа звычайна пісалі акты на знішчэнне гэтай атруты.) Яшчэ праз пяць хвілін рука дзяжурнага пацягнулася да тэлефоннага апарата і палец неахвотна крутануў зусім непажаданае "03".

Неўзабаве прыехала "Хуткая дапамога". Урач Банкевіч, які губляўся ў здагадках наконт усяго гэтага, увайшоў у




пакой дзяжурнага важна нясучы перад сабою чамаданчык з лекамі.

Лейтэнант Піліпчук папрасіў, каб доктар даў Строку ўкол ад сімулянства, упэўнены, што такія ўколы існуюць. Банкевіч, як і належыць доктару, уважліва паглядзеў на хворага, цвяроза ацаніў сітуацыю і цвёрда вырашыў адпомсціць міліцыянерам за здзек у мінулы раз.

Ён паслухаў Строка, пастукаў па спіне, замераў ціск і, быццам бы паміж іншым, запытаў:

— Вас білі?

Тут, перабіваючы адзін аднаго, дружна загаманілі дружыннікі і лейтэнант.

— Хто яго біў?

— Ніхто яго не чапаў ...

— Каму ён патрэбны ...

Банкевіч зноў не звярнуў увагі на ўвесь гэты шум-гам і зноў запытаў у чалавека, які ляжаў перад ім на падлозе і так страшна лямантаваў.

— Скажыце: ці штурхалі вас пад сэрца?

— Вось ён, — паказаў Строк на Піліпчука. — У плечы біў ... — і зноў зароў немым голасам.

— Ясна. Зараз мне ўсё ясна.

Банкевіч устаў з калень і паглядзеў на лейтэнанта вачыма, якімі пракурор глядзіць на злачынцу. Той у адзін момант расчырванеўся і тут жа зрабіўся белым, як крэйда: твар, вушы, шыя.

— Не біў я яго! Не біў! Я проста папіхнуў яго ў плечы, калі ён не выходзіў з машыны.

Строк загаласіў яшчэ мацней.

— Я ўпэўнены, што гэта інфаркт.

— Гэта ад гарэлкі ў яго.

Ведаючы, што нашыя міліцыянеры знаюць медыцыну, як свае службовыя абавязкі, Банкевіч рашуча пайшоў у атаку.

— І ад удару таксама. Верагодней, што ад удару. Гэта вам скажа любы доктар.

Дзяжурны па райаддзелу капітан Елісееў перапалохаўся да паўсмерці, на усякі выпадак, хуценька адправіў дружыннікаў на маршрут, сам клікнуў Банкевіча ў другі пакой і пачаў шэптам гаварыць:

— Тут х-хлопцы-ы сёння п-прывезлі ... Во-о! — Елісееў выцягнуў з-пад стала вялізны глячок нейкай мутнай вадкасці. — В-вось такая штука. Давай па шклянцы.

— Н-не! Не! Я не п'ю! — доктар затрос галавою.

— Ты? — капітан кісла ўсміхнуўся, бо ведаў Банкевіча не першы год. — Паправадзе, вось такая штука. Трымай шклянку.

— Я сур'ёзна не п'ю.

— Даўно? — ад здзіўлення ў капітана расшырыліся вочы.

— Другі тыдзень, — з задавальненнем адказаў Банкевіч.

— Дык вазьмі з сабою. Хлопцаў пачастуеш. Дзе яны зараз дастануць. Позна ўжо. Вечар.

— У нас на працы не п'юць, — сказаў, як адрэзаў, Банкевіч і, гледзячы на парваную калашыну лейтэнанта, запытаў: — Што гэта ў вас з нагою.

— Сабака ўкусіў, — шчыра адказаў Піліпчук.

— Шалёны ?

— Бульдог. Адразу відаць парода... Але вось што цікава! Стаў каля гэтага алкаголіка і нікога не падпускае. Вочы чырвоныя...

— Як вы сказалі ?

— Вочы чырвоныя, кажу, — паўтарыў лейтэнант.

— Калі вочы чырвоныя, значыць, шалёны.

Доктар хуценька прынёс з суседняга пакоя свой чамаданчык і адчыніў яго.

— Распранайцеся. Дам укол супроць шаленства. Сёння адзін і запішу ў картку. Заўтра пойдзеце на прыём. Там вам назначаць курс лячэння ў сорак уколаў.

Піліпчук не баяўся уколаў, але працяглы курс лячэння ўшчэнт ламаў усе яго планы. Ён збіраўся хутка пайсці ў водпуск і паехаць да цёткі, бо тая абяцала ажаніць яго на нейкай надта добрай дзяўчыне, якую кахалі ўсе хлопцы, але чамусьці ніхто не браў замуж.

Незадаволена штосьці балбочучы сабе пад нос, на што доктар таксама не звяртаў ніякай увагі, лейтэнант пачаў распранацца: спусціў да кален ірваныя казённыя парткі, потым — адзіныя ў свеце па свайму фасону і непаўторныя па малюнку — калгасныя трусы, якія, дарэчы, вельмі ўпрыгожвалі маладога хлопца. З-за атсутнасці мэблі, на якую можна было легчы, ён узяўся рукамі за крэсла і сагнуўся, добра выпучыў адно месца, такое ж рыжае, як і твар. Банкевічу, яшчэ сярдзітаму на лейтэнанта, раптам вельмі ўжо захацелася гвазділуць нагою пад гэты ўтыканы рэдкімі доўгімі валасінамі рыжы азадак, але ён стрымаў свае эмоцыі і толькі, што было сілы, загнаў у сцягно ўкол. Укол быў настолькі балючы, што Піліпчук закрычаў яшчэ гучней, чым лямантаваў у суседнім пакоі Строк.

Капітан Елісееў моўчкі назіраў збоку і ў душы радаваўся, што яго ніколі не кусалі сабакі, а калі доктар закончыў сваю справу, нясмела запытаў:

— Ты забярэш гэтага алкаголіка з сабою?

— Вядома. Не буду ж я пакідаць хворага чалавека вам, касталомам, — адказаў Банкевіч і сур'ёзна загадаў: — Бярыце насілкі і нясіце яго ў машыну.

Піліпчук ўзяўся рукою за сцягно і, прыкульгваючы, хуценька збегаў па насілкі. Затым ён на пару з дзяжурным па райаддзелу далікатна паклалі Строка на насілкі і гэтак жа далікатна аднеслі яго ў машыну.

Потым Піліпчук улавіў момант і хацеў усунуць Банкевічу ў кішэню халата дзесяць рублёў, але той адкінуў руку і грозна сказаў:

— Мець такога суседа па нарах не жадаю.

Ад гэтых слоў на душы ў лейтэнанта Піліпчука зрабілася сумна і журботна, і ён, як нежывы, звесіў галаву ды паплёўся следам за дзяжурным.

Калі "Хуткая" ад'ехала некалькі соцен метраў ад міліцыі, Банкевіч папрасіў шафёра спыніць машыну, а сам адчыніў акенца паміж кабінай і салонам ды сказаў:

— Хворы! Свечку ў царкве не забудзь паставіць за маё здароўе.

Строк зразумеў, што бяда мінавала яго, але дурасць пры гэтым не прайшла, і ён, як і раней, павёў сябе нахабна — сеў на насілкі і катэгарычна заявіў:

— Нікуды не паеду. Вязі на Вашабіткі.

Доктару не хацелася ехаць на гэтую вясёлую ўскраіну гарадка і таму ён прапанаваў чалавеку:

— Калі жадаеш, то магу адвезці назад.

— Не! Не! Дзякуй, я сам пайду, — паспешна адказаў Строк і хуценька выскачыў з машыны.

Рыгор Банкевіч вяртаўся на службу са спакойным сэрцам: сённяшні паядынак з мясцовай міліцыяю яму ўдалося звесці ўнічыю.

IV

Антон Пятровіч Крыніца — першы сакратар райкама партыі — вярнуўся дахаты, як заўжды, позна. Ён добра памятаў народную прымаўку, што веснавы дзень год корміць, і старанна сеяў не выходзячы са свайго кабінета. Толькі што Крыніца звязаўся з Масквою і папрасіў выдзеліць аўтамабіль "Мерсэдэс", а калі сабраўся ісці і выпадкова глянуў у акно, то ўбачыў, што нейкі бэйбус з міліцыі перад вялізным натоўпам людзей дражніць яго любімага Тусіка. Не раздумваючы ні хвіліны, ён патэлефанаваў на кватэру начальніка райаддзела ўнутраных спраў. Той доўга не мог зразумець матывы гэтага тэлефоннага званка, бо яшчэ ўчора на нейкай канферэнцыі першы сакратар хваліў яго за добрую працу і ставіў усім у прыклад. А цяпер, калі ўбачыў, што яго Тусік саступіў у спрэчцы з міліцыянерам — падціснуў хвост і пабег прэч, — Крыніца сказаў, што яго лейтэнанты ўмеюць толькі дражніць шчанюкоў. Начальнік райаддзела тут жа паабяцаў даведацца прозвішча таго лейтэнанта і "спілаваць яму рогі", каб ведаў, да якіх сабак трэба прыставаць, а да якіх — не.

Крыніца быў галодны, як воўк у снежную зіму. Дома ён толькі выпіў вячэрні кілішак каньяку і падсунуў да сябе смажанага сома — падарунак дырэктара мясцовага рыбгасу, як тут неспадзявана і патрабавальна зазваніў тэлефон. Турбавала міжгародка. Верны сябар з вобласці папярэджваў, што да яго, Крыніцы, заўтра прыязджае камісія — аж з самога ЦК!

Затахкала сэрца і душу ахапіла роспач.

Апетыт быў сапсаваны, але Крыніца ўсё ж з'еў пяцікілаграмовага сома. У час яды ў галаву палезлі розныя думкі: патрэбныя і непатрэбныя. Спачатку яго магутны аналітычны розум перабраў "усе казырныя карты" (любімы выраз), магчымыя варыянты наступлення на камісію. Удалае наступленне заўжды стопрацэнтная гарантыя таго, што цябе пакінуць на пасадзе. Зміяўся час: цяпер камісію не задаволіш бочкаю мёду, камісія не паедзе ў лазню з дзяўчатамі ... Баяцца, баяцца за сваю шкуру.

Старанна перажоўваючы цвёрдае мяса старога сома, ён пачаў прыдзірліва перабіраць магчымыя варыянты абароны. Тут таксама поўны правал. Новае абласное кіраўніцтва не мела да яго ласкі.

Ад такога аналізу ён засумаваў і не заўважыў, як стаў кусаць вус сома. Калі заўважыў, што з'еў палову вуса, яму зрабілася кепска. Затрэсліся, як у ліхаманцы, рукі і коленкі, разбалелася галава. І тут Крыніца ўспомніў, што нават у гэтым безвыхадным становішчы ёсць выйсце — хвароба.

Геніяльная думка — на перыяд працы камісіі захварэць.

Звычайна Крыніца лячыўся ў вобласці. Мясцовым свяцілам ад медыцыны ён не давяраў і абыходзіў іх за вярсту, але абставіны склаліся так, што рабіць нейкі выбар было проста немагчыма. Трэба было дзейнічаць рашуча і тэрмінова.

Антон Пятровіч паклікаў жонку і аб'явіў аб сваім рашэнні. Паліна ўпала на яго шырокія валасатыя грудзі і абрасіла іх чыстаю слязою.

— А-анто-она-ачка! Ро-одне-енькі-і! На каго-ж ты-ы мяне-е, сірацінушку-уу-у, па-кіда-аеш. Тусік, адчуваючы нядобрае, жаласліва завыў.

Дзяжурныя слёзы скончыліся хутка, рэшткі іх Паліна расцерла па шчоках і пайшла збіраць мужа ў бальніцу. Акрамя імпартнай бялізны, спартовага касцюма, кітайскага ручніка, дэфіцытнага мыла, звышдэфіцытнай зубной пасты і шчоткі, у вялізную спартыўную сумку яна ўпакавала смажаную качку, каўбасу з ласкціны, вэнджаны кумпяк дзічыны, вэнджаны палтус, ікру чырвоную, ікру чорную, сыр галандскі, дзве пляшкі чэшскага піва і пляшку армянскага каньяку. За трыццаць пяць гадоў сумеснага жыцця яна добра вывучыла апетыт мужа і пры гэтым заўжды лічыла, што пры такой цяжкай і напружанай працы яму проста неабходна каларыйнае і разнастайнае харчаванне.

Крыніца яшчэ раз успомніў сваю легендарную ў мясцовым народзе шматгадовую кіпучую дзейнасць і прыйшоў да сумнага заключэння: выратаваць яго ад камісіі можа толькі хвароба.

Ён зноў адчуў сябе блага і лёг у пасцель.

Паліна Крыніца скончыла прыгатаванні і набрала нумар "Хуткай дапамогі".

Тэлефонныя званкі на "Станцыі хуткай дапамогі" заўжды непажаданыя, а тым болей ноччу. Большая частка тых, хто тэлефануе ў гэты час — старыя людзі. Іх турбуюць бяссоніца, колікі, а то і проста душыць адзінота. Яны ці пытаюць нейкую недарэчнасць ці кажуць нейкае глупства. Напрыклад: "Мне так баліць галава, так баліць, што я ўжо выпіла пяць парашкоў "фталазолу", а яна мне ўсё роўна баліць". Да такіх званкоў дактары ставяцца адпаведна.

Слава Калодка, які сядзеў бліжэй за ўсіх да тэлефоннага апарата, падняў трубку і весела адказаў:

— Ал -лёў!

Усё цудоўна! Правы засталіся цэлымі — чаму ж не радавацца!

У слухаўцы пачуўся тонкі піскявы голас, падобны на дзіцячы, да якога прымешваўся характэрны свіст.

(Учора ў Паліны Крыніцы, як на здзекі, выкрышылася палова пярэдняга зуба і яна ў час размовы пачала свісцець).

— С-с-казыце, это с-скорая?

— Швыдка, цітка, швыдка, — сказаў Слава Калодка адзінае, што ведаў з братэрскай украінскай мовы, і тое пачуў у анекдоце.

*(Працяг у наступным нумары).*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

**Заснавальнік:** ТБМ імя Францішка Скарыны.
**Пасведчанне аб рэгістрацыі:** № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
**Адрас рэдакцыі:** 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
**Адрас для паштовых адпраўленняў:** 231300, г. Ліда-2, п/с 7.
**E-mail:** ns@lida1.lingvo.grodno.by

**Рэдакцыйная калегія:**
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

**Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі**

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 5. 02. 2001.
Наклад 3000 асобнікаў. Замова № 473
**Падпісны індэкс:** 63865.
**Кошт падпіскі:** 1 мес.- 215 руб., 3 мес.- 645 руб.
**Кошт у розніцу:** 70 руб.